# АБРАЗЫ З ТЫДНЯ



Пяхота ў штурме на Сталінград. Кожны дом выбудаваны, як крэпасьць.



У жорсткіх атаках нямецкія баявыя самалёты зьнішчылі жалезнадарожны раён. Усё дашчэнту зруйнована, горы разьбітых вагонаў ляжаць каля чыгункі.



ЗАХОДНІ АБРЫВІСТЫ БЕРАГ ВОЛГІ.



Падпалкоўнік Граф адзначаны за свае сьмелыя й пасьпяховыя налёты Дубовым Лістком. На працягу дзевяці дзён ён зьбіў 39 савецкіх самалётаў.



Нямецкія бомбы б'юць па СТАЛІНГРАДЗЕ.



На варце...



**Баявы абшар каля СТАЛІНГРАДУ.**

Удзень і ўначы ўздымаюцца густыя хмары дыму над палаючымся Сталінградам. Дым далёка плыве над раўніннай ваколіцай.